

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЧЫМ ПАЗЬНЯК У ЭЎРОПЕ СТРАШНЫ ДЛЯ ЗАМЯТАЛІНА

**Усе афіцыйныя газеты на мінулым тыдні стракацелі выказваньнямі палкоўніка Замяталіна з нагоды паездкі лідараў Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка па Эўропе. Чым жа выклікана такая ўвага шэфа прапаганды да «обанкротившегося политика»?**

Адказ, здавалася б, ляжыць на паверхні. Пазьняк і Навумчык, выступаючы ў свабодных сродках масавай інфармацыі, даносяць да эўрапейцаў праўду пра становішча і падзеі на Беларусі, абуджаюць цікавасьць да нашай краіны. Выступленьні па польскай тэлевізіі далі магчымасьць і добрай частцы заходніх беларусаў пачуць і пабачыць лідара беларускай апазіцыі. Разам з тым Пазьняк знаходзіцца ня недзе ў Амерыцы ці Аўстраліі, а побач, і разам з тым - недасяжны.

Аднак асноўная прычына Замяталінскіх клопатаў схавана ня тут. Асноўная прычына схавана на Беларусі. Эўропу Замяталін перажыў бы. Да Эўропы Замяталін усё роўна павернуты адпаведным месцам, бо ўвесь час робіць рэверансы ў бок Масквы. А вось Беларусь... Тут справа зусім іншая.

Своеасабліва трактуючы разам са сваім шэфам роль асобы ў гісторыі і звыкшы ў войску да адзінаначальля, палкоўнік Замяталін меркаваў, што дастаткова пазбыцца лідара нацыянальнага руху і рух развалiцца ці затухне сам па сабе. Адбываецца ж зусім іншае.

24 сакавіка пры Пазьняку на вуліцы Менска выйшла каля 50 тысяч чалавек, а 2 красавіка без Пазьняка - ужо каля 70 тысяч. Пры гэтым кантынгент людзей 24 сакавіка і 2 красавіка вельмі адрозьніваўся. Калі 26 красавіка выйдуць і тыя і тыя, то можна чакаць больш за 100 тысяч. А гэта ўжо мала падобна на «кучкі нацыяналістаў».

Менскія падзеі і раскладка сілаў фактычна абазначаюць крах усёй прапагандысцкай машыны лукашэнкаўскага рэжыму. Скіраваўшы ўвесь цяжар прапаганды супраць Фронту, сканцэнтраваўшы асноўны ўдар па Пазьняку, ведамства Замяталіна выпусьціла з-пад увагі нацыянальна-сьвядомую частку беларускага народу, выпусьціла не таму што ня бачыла, а таму што бачыць не жадала, не прызнаючы наогул яе існаваньня. Лямантуючы з усіх трыбунаў пра 80 працэнтаў, якія падтрымалі палітыку Лукашэнкі, Замяталін ня хоча бачыць, што ад гэтых працэнтаў хутка застанецца адзін «пшык». Гэтыя працэнты папаўняюць шэрагі супраціўнікаў рэжыму. І тут палкоўніку хацелася б мець Пазьняка пад рукой, каб «навесіць на яго ўсіх сабак», абвінаваціць у падрыўных дзеяньнях. Ды вось незадача - Пазьняк у Эўропе, а народ на вуліцах.

Канешне, крайнія знойдуцца: то Баршчэўскі, то Вячорка, то Знавец, але гэта ўсё ня тое. Замяталіну патрэбен Пазьняк, Пазьняк як сімвал ворага. Таму, чым дольш будзе Пазьняк у Эўропе, тым больш будзе раздражняцца Замяталін. Бо незадавальненьне ў народзе палітыкай А.Лукашэнкі будзе расьці. Для гэтага Лукашэнкамі і яго камандай створаны ўсе ўмовы.

**Станіслаў СУДНІК.**

## КАНСТЫТУЦЫЙНАЯ БУТАФОРЫЯ

**У палеміцы з прэзідэнтам ягоныя апаненты часта прыгадваюць п.1 артыкула 100 Канстытуцыі, на які нярэдка спасылаўся галава дзяржавы, прадпрымаючы тыя ці іншыя крокі ў прававой прасторы нашае краіны. Артыкул гэты, нагадаю, гаворыць, між іншым, аб прыняцьці Прэзідэнтам захадаў па ахове суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Рэспублікі Беларусь. Калі разумець пад вышэйзгаданымі паняцьцямі імкненьне да зьліцьця ў адзіную дзяржаву з іншай краінай, дык гэтае палажэньне выконваецца кіраўніком дзяржавы літаральна і пасьлядоўна.**

Але мала хто зьвяртае ўвагу на артыкул 104 тае ж Главы 4 Канстытуцыі, што вызначае прававы статус першай асобы выканаўчай улады. Яна тычыцца вельмі непрыемнага аспекту, а менавіта выпадкаў зьняцьця прэзідэнта з пасады. Чытаем там: «Прэзідэнт можа быць зьняты з пасады ў выніку парушэньня Канстытуцыі...» Хто можа гэта зрабіць, якім чынам? Аказваецца, Вярхоўны Савет сваёй пастановай. Акрэсьлена нават працэдура. Але ў якім выпадку, што можа служыць падставай, хто ўпаўнаважаны вызначаць - парушана Канстытуцыя ці не?

І на гэта артыкул дае адказ: «Заключэньне аб парушэньні Прэзідэнтам Канстытуцыі даецца Канстытуцыйным Судом...» Мала таго, заканадаўцы папярэдняга склікаьня ўхвалілі, што «З моманту вынясеньня заключэньня Канстытуцыйнага Суду аб парушэньні Канстытуцыі... Прэзідэнт ня можа выконваць свае абавязкі да вынясеньня Вярхоўным Саветам адпаведнага рашэньня».

З пасланьня Канстытуцыйнага Суду мы ведаем, што 11 (адзінаццаць) прэзідэнцкіх указаў не адпавядаюць Канстытуцыі, і што прэзідэнт даў распараджэньне Кабінету Міністраў і іншым дзяржаўным ворганам прытрымлівацца нормаў указаў, якія раней былі прызнаныя Канстытуцыйным Судом неканстытуцыйнымі. Хіба ж гэта не азначае, што Канстытуцыя была парушана адзінаццаць разоў, і ня сьведчыць, што зроблена гэта было цалкам сьвядома, наўмысна? Праўда, не чутно было, каб прэзідэнт прыпыніў сваё «функцыянаваньне», а Вярхоўны Савет прымаў «адпаведнае рашэньне». У чым жа тут загвоздка? Відаць, у адным толькі слове. Было «пасланьне», а не «заключэньне».

**Юрась ВАШКЕВІЧ.**

## СВАБОДУ СЛАВАМІРУ АДАМОВІЧУ!

**- пад такім дэвізам у мінулую пятніцу ў Горадні мясцовыя літаратары зладзілі пікет пратэсту супраць прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці за верш «УБЕЙ ПРЕЗИДЕНТА» паэта Славаміра Адамовіча.**



Як ужо паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі, паэт Славамір Адамовіч, супраць якога ўзбуджана крымінальная справа за верш «Убей президента», знаходзіцца ў сьледчым ізалятары КДБ. Даўшы сьледчаму падпіску аб нявыезьдзе, ён яе парушыў і спрабаваў перайсьці дзяржаўную мяжу Беларусі. Нават, калі суд не прызнае Адамовіча вінаватым у «закліку да забойства», яму пагражаюць 3 гады зьняволеньня альбо штраф за незаконнае перасячэньне мяжы. Варта згадаць малавядомы факт, што ахвярамі ў «справе Адамовіча» сталі дзьве пабочныя асобы - таксама літаратары (адзін з іх - М.К. - даволі вядомы ў літаратурных колах, выдаў дзьве кнігі). І трэба ж было ім трапіць да Адамовіча якраз тады, калі кадэбісты рабілі вобыск у ягонай кватэры! Няшчасных абшукалі, запісалі прозьвішчы, але адпусьцілі. Затое праз колькі дзён ні за што ні пра што яны былі звольненыя(!) з працы.

**Сакрат ГАРАДЗЕНСКІ.**
**Фота: Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ?

**«Вярхоўны Савет знаходзіцца ў інфармацыйнай блакадзе. Дыктары тэлебачаньня штодня палошчуць нас у брудзе», - заявіў дэпутатам гарадзенскага абласнога Савету намесьнік старшыні камісіі Вярхоўнага Савету па правах чалавека, нацыянальных пытаньнях і сувязях з грамадзкімі арганізацыямі Уладзімір Нісьцюк.**

Акрамя гэтага, нармальнай працы парламанту, на думку сп.Нісьцюка, перашкаджаюць малы досьвед дэпутацкай працы большасьці народных абраньнікаў, складаныя ўзаемаадносіны з выканаўчай уладай, слабое матэрыяльна-тэхнічнае забесьпячэньне («Як намесьнік старшыні камісіі я атрымаў толькі тры алоўкі і ручку за тры тысячы. Усё астатняе прынёс з сабой. Нават не кажу пра тое, што парламант ня мае свайго транспарту».), а таксама празьмерная палітычная «валтузьня».

У якасьці прыкладу апошняй сп.Нісьцюк прывёў факт нечакана выказанай 19 красавіка прапановы фракцыі камуністаў выказаць недавер ураду, няздольнаму, на іх думку, вывесьці краіну з крызісу.

Закрануўшы пытаньне давыбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы, Уладзімір Нісьцюк сказаў, што 17 красавіка дэпутаты ўнесьлі ў павестку дня сесіі парламанту пытаньне аб даце новых выбараў. Грошы на іх правядзеньне ў бюджэце запланаваныя. Правядзеньне выбараў неабходна і па той прычыне, што 25 працэнтаў (у іх ліку і сам сп.Нісьцюк) з канца красавіка вымушаныя будуць працаваць у беларуска-расейскім Міжпарламанцкім сходзе, што фактычна адарве іх ад працы ў Вярхоўным Савеце. Акрамя таго, пачаліся прызначэньні дэпутатаў парламанту на пасады ва ўрадзе, несумяшчальныя са статусам народных абраньнікаў. З гэтай нагоды 2 траўня Вярхоўны Савет разгледзіць пытаньне аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў васьмі дэпутатаў. Усё гэта, безумоўна, паслабіць парламант і толькі шляхам давыбараў можна пазьбегнуць развалу Вярхоўнага Савету.

**В.ДРЭМА.**

## ПЕВЕНЬ ПРАКУКАРЭКАЎ, А ПАСЬЛЯ ХОЦЬ СОНЦА НЕ ЎЗЫХОДЗЬ

**Дзяржаўная Дума Расеі 19 красавіка ратыфікавала Дагавор аб утварэньні расейска-беларускай садружнасьці, падпісаны 2 красавіка і афіцыйна названы прэзідэнтамі абедзьвюх краін гістарычным. Быў ратыфікаваны таксама Дагавор ад 29 сакавіка паміж Расеяй, Казахстанам, Кыргызстанам і Беларусьсю аб паглыбленьні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах.**

Вярхоўны Савет Беларусі да гэтага часу «гістарычны» дагавор ад 2 красавіка не ратыфікаваў. Больш таго, тэкст Дагавору ня быў нідзе надрукаваны, хаця ад пачатку «гістарычнай» падзеі прайшоў без малога месяц. Не ў традыцыях нашых уладаў хаваць ад народу такія сьведчаньні сваіх дасягненьняў. Як сьцьвярджаюць дасьведчаныя крыніцы, у рускамоўным і ў беларускім варыяньце Дагавору ёсьць адрозьненьні...

Прамаруджваньне з ратыфікацыяй робіцца непрыстойным.

**С.С.**



## «ДАВАТЬ ОТПОР РАСПОЯСАВШИМСЯ ЖУРНАЛИСТАМ!»

**- заклікалі ўдзельнікі мітынгу, прысьвечанага чарговым угодкам з дня нараджэньня Уладзіміра Ульянава.**

Удзел у «сьвяточным мерапрыемстве», якое адбылося 22 красавіка на пляцы Леніна ў Горадні, прыняло каля сотні равесьнікаў «Великого Октября». Усклаўшы віну за ўсе беды «трудящихся» на «национал-демократов» і «распоясавшихся журналистов», якія «очернили дело Великого Ленина», удзельнікі мітынгу выказалі падтрымку рашэньню расейскай Дзярждумы аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненьняў і заклікалі ўсіх «вперёд к обновлённому коммунизму».

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## ІДУ ТУДЫ - НЕВЯДОМА КУДЫ. УХВАЛЯЮ ТО - НЕВЯДОМА ШТО

Парапсіхалагічная сувязь паміж людзьмі, бясспрэчна, існуе. У той час, калі скептыкі, што, як вядома, усё падвяргаюць сумненьню, дамагаюцца пабачыць тэкст дагавору паміж Беларусьсю і Расеяй ад 2 красавіка г.г., у гэты час прадстаўнікі ўсіх колаў нашага грамадства шлюць ухвальныя лісты ў адрас Прэзідэнта А.Лукашэнкі. Ухваляюць яны тыя самыя расейска-беларускія дамоўленасьці, якіх ніхто ніколі ня бачыў. Гэта і ёсьць безумоўны доказ парапсіхалагічнай сувязі. Як раней казалі, маўляў, я Пастарнака не чытаў, але то, што ён пісаў - паклёп.

Праўда, тыя мінулыя водпаведзі расейскаму паэту пазьней тлумачылі высілкамі ідэалагічнага аддзелу ЦК і прафесійнай ініцыятывай КДБ. Але хіба сёньня такое магчыма? Людзі выказваюць задавальненьне добраахвотна, па закліку сэрца. Што з таго, што яны не чыталі тэкст дагавору? Што ня ведаюць нават, як у выніку будзе называцца супольнае ўтварэньне? Флюіды ад прэзідэнтаў дзьвюх краін дасягнулі ня толькі сталічных дзеячаў культуры і запасных палітрукоў, але даляцелі да палескіх глыбінь і калячарнобыльскіх пустак. І матэрыялізаваліся ва ўхвальныя лісты і тэлеграмы.

Пры такім узроўні суадносінаў кіраўніцтва са сваімі грамадзянамі хутка перажыткам стануць звычайныя сродкі сувязі. Дый друкаваньне дагавораў і пагадненьняў стане лішнім. Трымаць сувязь з народам шляхам флюідаў значна хутчэй і таньней.

Скептыкі сьцьвярджаюць, што народу падсоўваюць «ката ў мяшку», і што быццам бы ў тэкст дагавору «укралася памылка». Таму і казаць няма чаго.

Нават, калі так, нічога дрэннага. Галоўнае ня плён і ня вынік, галоўнае - удзел і дэманстрацыя. «Show mast go on», як гаворыцца. Імпрэза мусіць доўжыцца.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ПАЛІТЫКА ЛУКАШЭНКІ, ЯК ДЭСТАБІЛІЗУЮЧЫ ФАКТАР

**Гомельская гарадзкая арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі прыняла Заяву з нагоды «інтэграцыйных памкненьняў беларускіх камуна-патрыётаў і прэзідэнцкай каманды».**

Папулісцкія абяцанкі і няздольнасьць прэзідэнцкай каманды правесьці рынкавыя рэформы прывялі да таго, што Беларусь здадзена на міласьць усходняму суседу, - гаворыцца ў заяве. - Аднак, гэта мы - грамадзяне Беларусі - ужо праходзілі ў 1993/94 гадах, калі чакалі «інтэграцыі» па Кебічу і ягонай рублёвай зоны. У выніку той «інтэграцыі» эканоміцы Беларусі была нанесеная вялікая шкода. Безадказныя дзеяньні А.Лукашэнкі і беларускіх камуністаў могуць канчаткова дабіць эканоміку, а народ Беларусі зрабіць жабраком.

Для народу Беларусі, - адзначаюць гомельскія «грамадзяне», - няма іншага шляху дабрабыту, акрамя шляху ўмацаваньня дзяржаўнасьці і суверэнітэту.

Палітыка выканаўчай улады стала галоўным дэстабілізуючым фактарам у грамадзтве.

 









# ШТО ПАСЕЕШ, ТОЕ І ПАЖНЕШ!

**20 красавіка ў Горадні прайшла другая сесія абласнога Савету. На працягу пяці гадзін працы дэпутаты здолелі разгледзець усе дзесяць запланаваных пaвестак дня пытаньняў. У іх ліку - бюджэт вобласьці, праект якога ўбачылі толькі 19 красавіка (!). Найбольшыя спрэчкі выклікала пытаньне аб стуктуры і штатнай колькасьці работнікаў апарату Савету і арганізацыйна-тэхнічным абслугоўваньні абласнога Савету.**

**Удзел у працы сесіі ўзялі 52 з 56 абраных на гэты час дэпутатаў. Абраўшы намесьнікам старшыні абласнога Савету Івана Маркевіча, старшыню Шчучынскага райсавету, удзельнікі сесіі заслухалі справаздачу Аляксандра Дубко.**

**«ПРЕЗИДЕНТСКАЯ ВЕРТИКАЛЬ ИСПЫТЫВАЕТСЯ НА ПРОЧНОСТЬ»**

Выступ галавы вобласьці, перанасычаны месцамі «бюракратызмамі» (хіба што так можна назваць своеасаблівы чыноўніцкі слэнг - «ужесточить требовательность» ды «усилить бдительность» і г.д.), закранаў усе бакі жыцьця вобласьці ў 1995 годзе. Прамысловасьць: вытворчасьць зьменшылася ў мінулым годзе на 2,9 працэнта. У першым квартале 1996 году - на 4,7 працэнта. Стратна працавалі транспарт, гандаль, грамадзкае харчаваньне. Крэдыторская запазыка па стану на 1 сакавіка склала больш 4,5 трыльёнаў рублёў. У два разы менш, у параўнаньні з 1994 годам, пабудавана кватэр (2 тысячы). Кошт квадратнага метра жыльля складае каля 300 доляраў. Сельская гаспадарка: вытворчасьць малака скарацілася на 12 працэнтаў. Плошчы пад бульбу, у параўнаньні з 1990 годам, - на 60 працэнтаў. Сацыяльнае забесьпячэньне: штомесяц са спазьненьнем атрымліваюць пенсіі 316 тысячаў пенсіянераў вобласьці. Сярэдні памер пенсіі - 445 тысяч. Каля 4 працэнтаў працаздольнага насельніцтва (23 тысячы чалавек) засталіся бяз працы. Адукацыя: за апошнія два гады зачыніліся 33 сельскія школы. Ахова здароўя: сьмяротнасьць перавышае нараджальнасьць. Рост захворваньняў на сухоты (туберкулёз), венерычныя хваробы... Прэса: «...будем требовать объективной информации по политическим вопросам... Повышать действенность публикаций...» Рэлігія: «...сегодня является серьёзной политической (? - аўт.) силой... Неединичны случаи нарушения законодательства зарубежными священнослужителями». Крымінальная сітуацыя: «находится под контролем».

Зрабіўшы справаздачу, Аляксандр Дубко накіраваўся ў аблаграпрам на селектарную нараду з прэзідэнтам. Скарыстаўшы момант, ледзь не навыперадкі ўцякалі з залы і многія запрошаныя на сесію «госьці». А дарэмна, бо наперадзе было шмат цікавага. Напрыклад,

**ГАРАСКОП НА 1996 ГОД**

Трэцім пытаньнем у павестцы дня сесіі было зацьвярджэньне прагнозу эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця вобласьці на 1996 год, прадстаўленага намесьнікам старшыні аблвыканкаму сп.Бяляевым. Што ж паказваюць зоркі гарадзенскім астролагам?

Рост прамысловай вытворчасьці павінен на 0,3 працэнта перавысіць мінулагодні паказчыкі. Спад вытворчасьці прагназуецца толькі ў Бераставіцкім, Лідзкім раёнах і ў Ваўкавыску. Палепшаць свае паказчыкі хімічная і нафтаперапрацоўчая галіны. На мінулагоднім узроўні застануцца машынабудаваньне, электраэнергетыка, лясная і дрэваапрацоўваючая прамысловасьці. Яшчэ горш, чым у мінулым годзе, пойдуць справы ў лёгкай і харчовай прамысловасьці, зьменшыцца вытворчасьць будматэрыялаў. Нічога добрага зоркі не абяцаюць транспартнікам. Пасажыры будуць езьдзіць менш, білеты будуць каштаваць больш. На чвэрць зьменшыцца адпраўка грузаў з гарадзенскага аэрапорту.

Разам з тым, вырасьце колькасьць тэлефонных апаратаў. Лепш будзе жыць і сельская гаспадарка. Напрыклад, бульбы плануецца атрымаць у чатыры разы больш.

Вырасьце колькасьць беспрацоўных. У асноўным - за кошт скарачэньня на дзяржаўных прадпрыемствах. Колькасьць людзей, занятых у народнай гаспадарцы, зьменшыцца з 520 тысячаў да 517 тысячаў. На рынку працы чакаецца 91 тысяча чалавек. З іх толькі 33 тысячы ўладкуюцца самастойна. Астатнія зьвернуцца ў службу занятасьці, але там знойдуць працу толькі для 15 тысяч. Колькасьць беспрацоўных у канцы году складзе 3,5 працэнта да працаздольнага насельніцтва. Апошні паказчык перавышаны ўжо сёньня, што ставіць пад сумніў сур'ёзнасьць усяго «прагнозу», але на тое ён і прагноз, каб ня ставіцца да яго вельмі сур'ёна. Іншая справа - бюджэт. І зусім справядліва пры яго абмеркаваньні адзін з дэпутатаў папрасіў дакладчыка - начальніка фінансавага ўпраўленьня аблвыканкаму Мікалая Шабана

**НЕ РАБІЦЬ З ДЭПУТАТАЎ САЛДАФОНАЎ**

На пачатку свайго выступу сп.Шабан прыгадаў сітуацыю з выкананьнем мінулагодняга бюджэту. План па прыбытках быў выкананы на 92,4 працэнта. Недаатрымана 106 мільярдаў рублёў. Недавыканалі план 15 гарадоў і раёнаў, 48 сельскіх і 12 пасялковых бюджэтаў. Планавыя выдаткі ў вобласьці прафінансаваныя толькі на 93,7 працэнта. Прапанаваны дэпутатам праект бюджэту вобласьці на 1996 год прадугледжваў суму прыбыткаў і выдаткаў у памеры 3 трыльёнаў 149 мільярдаў 4 мільёнаў рублёў.

70 працэнтаў бюджэтных выдаткаў пойдуць на фінансаваньне сацыяльна-культурных установаў і мерапрыемстваў. На адукацыю запланавана больш 1 трыльёна рублёў, на зарплату работнікам установаў адукацыі - 516 мільярдаў. Выдаткі на аграпрамысловы комплекс складуць 248 мільярдаў, на ахову здароўя - 791 мільярд (з іх 300 мільярдаў - на зарплату). Каля 80 мільярдаў пойдуць на ўтрыманьне ваенкаматаў і праваахоўных органаў.

Абмеркаваньне бюджэту (да больш дэтальнага яго аналізу «ПАГОНЯ» зьвернецца ў бліжэйшых нумарах) паказала поўную непадрыхтаванасьць дэпутатаў да вырашэньня гэтага пытаньня. Дый ці магло быць інакш, калі праект дакументу народныя абранынікі атрымалі за дзень да сесіі?! На аналагічную рэпліку дэпутата Лабковіча, намесьніка камандзіра 6-й механізаванай брыгады, сп.Шабан адрэзаваў: «Я ж не прэтэндую на тое, каб разьбірацца ў вайсковай стратэгіі!» Ня выказала жаданьня разьбірацца ў эканамічнай стратэгіі і падаўляючая большасьць дэпутатаў. Абмеркаваньне бюджэту, прынятага аднагалосна, заняло гадзіну часу...

А тым часам запазыка бюджэту па стану на 1 красавіка ўжо склала 280 мільярдаў. У Горадні бюджэт за 1 квартал выкананы толькі на 22,8(!) працэнта. Недаатрымана каля 18 мільярдаў. З улікам мінулагодніх запазык (33 мільярда), сёньня запазыка горада складае 56 мільярдаў. Аналагічная сітуацыя ў іншых гарадах і раёнах. Дык які ж бюджэт вы зацьвердзілі, спадары дэпутаты?

**ПРАГРАМА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ**

Разабраўшыся з бюджэтам, дэпутаты адным махам зацьвердзілі і праграму прыватызацыі ў вобласьці. А прадаваць тут ёсьць што. Усяго 8,5 працэнтаў (229) аб'ектаў камунальнай маёмасьці абласнога ўзроўню на гэты час перайшлі ў прыватныя рукі. Кожны трэці раён і ня браўся за прыватызацыю, нягледзячы на тое, што аўкцыёны і конкурсы прыносяць немалыя грошы. Толькі ў 1995 годзе вобласьць атрымала 5 мільярдаў рублёў.

За наліччэньнем чэкаў «Маёмасьць» у адпаведныя органы вобласьці зьвярнулася 77,8 працэнта насельніцтва (па краіне гэты паказчык складае 69,9 працэнта). Тэрмін прыёму заявак сканчаецца 30 красавіка.

**НЕСПАДЗЯВАНКІ...**

Неспадзяваная затрымка ў працы сесіі атрымалася пры разглядзе двух апошніх пытаньняў. Напачатку дэпутаты не падтрымалі прапанову аблвыканкаму адмяніць рашэньне Ваўкавыскага райсавету ад 1993 году аб прадстаўленьні ільгот работнікам сацыяльнай сьферы пасёлкаў Рось і Краснасельскі. Начальнік фінансавага ўпраўленьня Мікалай Шабан пераконваў дэпутатаў, што гэтыя пасёлкі не зьяўляюцца сельскімі і ня маюць права на ільготы, на выплату якіх у 1995 годзе пайшоў 481 мільён рублёў. Народныя абраньнікі спасылаліся на цяжкую экалагічную сітуацыю ў Росі і Краснасельскім.

Яшчэ больш ажыўленыя дыскусіі разгарнуліся вакол пытаньня аб структуры і штатнай колькасьці работнікаў апарату абласнога Савету. Прапанаваны старшынём Савету Аркадзем Карпуцем праект рашэньня (апарат складаецца са старшыні, яго намесьніка на грамадзкіх пачатках і галоўнага сьпецыяліста, за якімі замацоўваецца кіроўца службовай машыны) выклікаў у зале зразумелае пытаньне: а ці ў стане тры чалавекі «цягнуць» на сабе ўсю працу?

Папрасіўшы слова, старшыня гарадзенскага гарсавету Фёдар Гудзей трапна назваў такі варыянт апарату «Тры танкісты і сабака», зазначыўшы пры гэтым, што на бліжэйшай сесіі гарсавету зьбіраецца пакінуць сабе як мінімум двух галоўных сьпецыялістаў.

Проста дзіўна паводзіў сябе пад час сесіі і асабліва пры разглядзе гэтага пытаньня старшыня абласавету Аркадзь Карпуць. Чалавек, які месяц назад заняў прынцыповую пазіцыю, стаўшы на абарону Сямёна Домаша, усімі сіламі імкнуўся пераканаць дэпутатаў прыняць прапанаваны аблвыканкамам варыянт рашэньня, згодна з якім арганізацыйна-тэхнічным забесьпячэньнем працы абласнога Савету зоймецца аргаддзел аблвыканкаму, які дзеля гэтага ужо (!) павялічаны на 9 чалавек. Пры такім варыянце рашэньня фактычна ўся праца Савету ставіцца ў залежнасьць ад апарату аблвыканкаму, і прынцып падзелу ўлады становіцца простай фармальнасьцю. Пасьля таго, як дэпутаты прагаласавалі супраць такога рашэньня, то іншыя, альтэрнатыўныя варыянты ўвогуле не разглядаліся. Старшыня абласавету абвясьціў сесію зачыненай. Зьнясіленыя пленнай пяцігадзіннай працай, дэпутаты разьехаліся ўздымаць народную гаспадарку.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ШТО ЗА САВЕТ БЕЗ КАМУНІСТАЎ?

У абласным Савеце дэпутатаў зарэгістравана фракцыя камуністаў, якую ўзначальвае Барыс Анішчык. У яе склад увайшло 14 дэпутатаў. Яшчэ на першай сесіі былі створаныя фракцыі аграрыяў (25 чалавек) і «Згода» (16 чалавек).

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## СТУДЭНТЫ ВІТАЮЦЬ ВЯСНУ

У нядзелю 28 красавіка ў палацы культуры «Юнацтва» адбудзецца заключны канцэрт традыцыйнага маладзёжнага фестывалю мастацкай самадзейнасьці «Студэнцкая вясна-96». У праграме возьмуць удзел найбольш цікавыя выканаўцы з вышэйшых і сярэдніх сьпецыяльных навучальных установаў горада. Пачатак імпрэзы а 17-й гадзіне (уваход вольны).

**У.Х.**

# «СТАРЭЙШЫ ЛЕЙТЭНАНТ САКІН ПАТРОНАЎ НЕ ШКАДУЕ...»

**Надрукаваны ў пазамінулым нумары «ПАГОНІ» артыкул «Старшы лейтэнант Сакін патронаў не шкадуе і страляе без папярэджваньня» атрымаў вялікі рэзананс. Газеты «Звязда» і «Гродзенская праўда» таксама дружна адгукнуліся на гэты інцыдэнт. Іхныя публікацыі і сталі прычынай візіту ў рэдакцыю «ПАГОНІ» усіх сьведкаў той падзеі.**

**Е.У.ГРЭСЬ:** Я проста абурана публікацыямі ў «Звяздзе» і «Гродзенскай праўдзе». Як можна пісаць пра нас, нават не сустрэўшыся з намі? Пішуць пра тое, што я нібыта «выхапіла і парвала пратакол». Але я яго маю на руках, прычым цэлым.

**Ю.І.РУТКОЎСКІ:** Пры складаньні памежнікам пратаколу, выказаў яму сваю думку аб тым, што ён займае не сваё месца. Зрабіць такую заўвагу я меў усе падставы. Нас высадзілі толькі з-за таго, што я спытаў, чаму так доўга затрымліваецца аўтобус. Калі б праблема была толькі ў тым, што адсутнічае пропуск у пагранзону, то трэба было б высаджваць палову пасажыраў.

**М.М.МУКАСЕЙ:** Тое, як апісаны газетамі эпізод, што папярэднічаў прымяненьню афіцэрам зброі супраць майго пасажыра, можна мякка назваць неаб'ектыўным. Я - таксіст, мая справа дзесятая, але «перадёрнул затвор» памежнік тады, калі цэліўся ў мяне, гэта значыць значна раней. Тое, як ён крычаў пацярпеламу: «Ложись на землю», - чулі ўсе, але ніхто з нас ня чуў таго, што ён «предупредил о применении оружия». Мы ўсе бачылі, як Сакін нанёс удар ботам пасажыру, хаця ў той сітуацыі ў яго існавалі дзесяткі спосабаў выканаць свой «службовы абавязак» ня толькі без прымяненьня агнястрэльнай зброі, але і без біцьця.

**АД РЭДАКЦЫІ: «ПАГОНЯ» ня хоча гэтай публікацыяй падмяняць сабой ваенную пракуратуру. Канчатковы вердыкт, безумоўна, за ёю. Але мы хацелі б зьвярнуць увагу чытачоў ня толькі на тое, наколькі правамерна сп.Сакін біў чалавека і страляў з аўтамата. Чым прадыктавана ўвядзеньне рэжымнай зоны там, дзе гэтага не было нават за часамі СССР? Ці заўсёды дзяржава давярае зброю людзям ураўнаважаным і адказным?**

# ЦІ ВЫВЯЗЕ «ПОЛЬСКІ ЛАКАМАТЫЎ» ЭКАНОМІКУ БЕЛАРУСІ

**На мінулым тыдні ў Горадні адбылося паседжаньне беларуска-польскай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па транспамежнаму супрацоўніцтву. Прадугледжаная міждзяржаўным пагадненьнем ад 24 красавіка 1992 году за папярэднія чатыры гады камісія так і ня здолела пачаць працу. А тут, за адзін дзень, цэлы феерверк падзей...**



Па-першае, бакі былі прадстаўленыя міністрамі зьнешнеэканамічных сувязяў Міхаілам Марынічам з беларускага і Яцакам Бухачам з польскага боку. Іх суправаджалі амаль два дзесяткі сьпецыялістаў самага высокага ўзроўню. Прыняты Статут, Пратакол і Рэгламант, вызначаны накірункі працы. Утвораны дзьве падкамісіі - па пагранічнаму і міжрэгіянальнаму супрацоўніцтву - якія ўзначалілі з польскага боку ваяводы, а з нашага - намеснікі старшыняў аблвыканкамаў.

- Пазіцыя Беларусі адназначная - заявіў на прэс-канферэнцыі Міхаіл Марыніч. - Мы паварочваемся тварам да Польшчы. Мы прымем самы актыўны ўдзел у стварэньні разам з ёю эўрарэгіёнаў «Буг» і «Нёман». У першым выпадку партнёрам з беларускага боку выступіць разам з памежнымі рэгіёнамі Польшчы ды Украіны Берасьцейская вобласьць, у другім - Гарадзенская, якая ўступіць у больш шчыльныя кантакты з Летувой, Калінінградзкай вобласьцю і шэрагам паўночна-усходнік ваяводзтваў Польшчы.

Польшча сваю прыхільнасьць да супрацоўніцтва падмацавала канкрэтнымі фактамі і лічбамі. Калі ў мінулым годзе палякі выдаткавалі на паляпшэньне інфраструктуры ўсіх сваіх межаў 30 мільёнаў новых польскіх злотых, то ў гэтым годзе такая сума пойдзе на ўпарадкаваньне толькі беларуска-польскай мяжы.

- Польскі зьнешні гандаль разьвіваецца вельмі дынамічна, - гаворыць Яцак Бухач. - У мінулым годзе імпарт павысіўся на 39, а экспарт на 37 працэнтаў. Агульны тавараабарот склаў 52 мільярды долараў. Наша задача – яго падвоіць. Мы плануем яго рост штогод ня менш чым на 10 працэнтаў.

Беларусь таксама ідзе на Захад не з пустымі рукамі. Калі ў 1993 годзе тавараабарот паміж нашымі краінамі склаў 142 мільёны долараў, то ў 1995 годзе ён падвысіўся да 407 мільёнаў. Польшча трывала заняла чацьвёртае месца ў агульным аб'ёме беларускага зьнешняга гандлю. Аднак, складаецца ўражаньне, што гэтага мы дасягнулі не дзякуючы палітыцы ўраду, а наперакор ягонай палітыцы. Чаго толькі варты прыклад, калі палякі зрабілі ўсё магчымае дзеля таго, каб пачаў працу пераход «Дамачава», уклалі туды шалёныя грошы, а потым высьветлілася, што з беларускага боку там, што называецца, конь не валяўся. Красамоўным зьяўляецца і той факт, што Гарадзеншчына, якой сам Бог наканаваў весьці рэй у адносінах з Польшчай, «трымае» свайго суседа на 5 месцы па аб'ёму агульнага тавараабароту.

Тым ня менш, абодва кіраўнікі зьнешнегандлёвых ведамстваў настроены аптымістычна.

- Мы скранулі з «мёртвай» кропкі праблему стварэньня Польска-Беларускага банку, - адзначыў Я.Бухач, - які сьпецыялізавацца б на ўзаемаразьліках паміж польскімі і беларускімі партнёрамі. Прычым, у нацыянальных валютах. Спадар Мырыніч запэўніў нас, што гэты праект будзе падтрыманы беларускім урадам.

Як адзначылі міністры, праблема транспартнага «калідору» «Горадня-Калінінград» не абмяркоўвалася. Наступнае паседжаньне камісіі плануецца правесьці праз год у Польшчы. Яна падвядзе вынікі працы створаных падкамісій.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**

**На здымку: Яцак Бухач і Міхаіл Марыніч**

**Фота Я.Ванюкевіча,**

 



# РЭКЛАМА ☎45-29-96



## Экспрэс - АБ'ЯВЫ

### ПРОДАЖ

* дом цагляны, крыты алюмініем (12 км ад горада) з прысядзібным участкам (12 сотак). Ёсьць газ,вада, электрычнасьць, гараж, хлеў, падвал. Тэл. 31-45-45, 33-81-08.

* пішучую машынку «Ліствіца». Тэл. 47-18-36.

* вульлі з пчоламі. Тэл. у г.Дзятлава 36-4-58.

* конь, узрост 5 гадоў. Цана дагаворная. Тэл. у Навагрудку 3-06-35.

* цукар. Тэл. у Ашмянах 2-21-67.

* цэмент М-50 у мяшках. Кошт 1 мяшка - 40.000 рублёў. Тэл. у Дзятлаве 22-3-83 з 9.00 да 16.00.

* ВАЗ-2109 (рухавік 1,3, з Германіі, не растаможаны). Тэл. у Лідзе 2-38-19.

* дом 8 х 15 у в.Пелеса з гаспадарчымі пабудовамі. Адрас: г.Ліда, ул.Гастэла, д.33 ці Тэл. у Радуні 23-5-80.

* блокі газасілікатныя сьценавыя (таўшчыня 20 см.), перагародачныя (12,5 см). Тэл у г.Нясьвіж 5-42-71 ў любы дзень з 8.00 да 20.00

* ВАЗ-2103 тэрмінова ў добрым стане. Тэл. у Лідзе 96-6-28.

* новы рухавік а/м КамАЗ. Тэл. у Лідзе 2-67-57.

* 4-пакаёвую кватэру ў в.Уселюб Навагрудзкага раёну. Тэл. у Навагрудку - 74-7-94 пасьля 19.00.

* жылы драўляны дом у г.Іўе з гаспадарчымі пабудовамі. Тэл. 2-22-71 ў любы час.

* гараж (на Фолюшы), раму 131 х 145, раты камінныя ажурныя. Тэл. 5-13-56.

*пласьцінку 60-х гадоў з песьняй «Канікулы каханьня» у выкананьні японскіх сясьцёр Дза-Пінац. Тэл. у Лідзе 4-32-72.

* шыны для МАЗа. Тэлефон у Лідзе 2-26-64 (рабочы).

### КУПЛЯ

* 2-пакаёвую кватэру ў г.Навагрудку. Тэл. у Навагрудку 2-20-59.

* ВАЗ або іншамарку-дызель. Тэл. у Лідзе 2-61-37.

### МЯНЯЮ

* вельмі цікавы раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі» на кніжку Уэстана Лабара «Асабістасьць з псіхааналітычнага пункту гледжаньня». Тэл. 2-21-75.

* 1-пакаёвую кватэру ў Гутава (7 км. ад Менску, гарадзкі аўтобус N 108) на два пакоі ў Менску ці пакой + даплата, або на аднапакаёвую кватэру ў гарадах Беларусі + даплата. Зьвяртацца ў Менску па тэл. 42-57-59.

### РОЗНАЕ

* музычная школа ў Кітаі хоча ўсталяваць прыязныя адносіны з Гарадзенскім дзіцячым палацам культуры ці музычнай школай. Тэл. 6-69-80.

* запрашаюцца на працу ў Кітай беларусы-эспэрантысты, якія маюць музычную адукацыю, валодаюць музычнымі інструментамі (піяніна, флейта, віяланчэль і інш.) у якасьці настаўнікаў (выкладчыкаў) у муз. школах Кітаю. Праезд і харчаваньне за кошт кітайскага боку. Аплата 150-200 долараў у месяц. Тэл. 6-69-80.

### ПАСЛУГІ

* рамонт і наладка швейных машын і аверлокаў усіх відаў кваліфікаваным майстрам. Машынная вышыўка па заказу. Тэл. 6-33-49.
















## КУПОН • ПРЫВАТНАЯ АБ'ЯВА

### Умовы разьмяшчэньня

Для бясплатнай публікацыі на купоне прымаюцца выключна аб'явы прыватнага характару.

На адным купоне можна даць аб'яву толькі ў адну рубрыку, разборліва напісаўшы тэкст і адрас.

Выразаны купон з тэкстам аб'явы адпраўце поштай, альбо прынясіце ў рэдакцыю самі.

БЯСПЛАТНА

3 Імя і прозьвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________ (ПРОДАЖ, КУПЛЯ, МЯНЯЮ, РОЗНАЕ,ПАСЛУГІ)

Тэкст ____________

Купон сапраўдны на працягу тыдня з моманту выхаду "ПАГОНІ"

ПАГОНЯ 230023, Горадня, вул. Дамініканская,1



## ВЫСОКІ ЗАРОБАК

гарантуецца, калі Вы станеце рэкламным агентам газеты «ПАГОНЯ».

Неабходныя якасьці: камунікабельнасьць, творчая жылка, арыентацыя ў сьвеце дзелавой інфармацыі.

Ваша задача - пошук рэкламных матэрыялаў у газету, а наша - своечасова выплаціць Вам 25% ад сумы атрыманых заказаў.

Мы навучым Вас прыёмам працы ў рэкламе!

Заняткі з рэкламнымі агентамі праводзяцца кожны чацьвер у 18.00 па адрасу:

вул.Дамініканская,1.Рэдакцыя газеты «ПАГОНЯ».

☎ 45-35-61, 45-29-96.

Тэлефануйце! ЗАХОДЗЬЦЕ!




MEMORIA

# ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА БЕЛАРУСІ

У Слоніме вясна змагалася з зімою. Вясна адваёўвала плацдармы на сонечных месцах, а зіма трымалася за кожны закутак ценю. Гэтая барацьба такая відавочная, з вядомым усім канцом, тым не менш, была вельмі арыгінальнай, як толькі можа быць арыгінальным любы працэс з неабмежаванай колькасцю чыннікаў.

Арыгінальнай зьяўляецца і сёньняшняя барацьба беларускага народу за сваё нацыянальнае адраджэньне. Зусім арыгінальнай была і барацьба беларускай моладзі пасьля Другой сусьветнай вайны. Паездка ў Слонім спатрэбілася, каб зазірнуць за смугу часу, яшчэ ня надта густую, але з кожным днём, годам, дзесяцігоддзем усё шчыльнейшую, каб бліжэй угледзецца ў тыя падзеі.

10 сакавіка 1996 году споўнілася 70 гадоў з дня нараджэньня Васіля Супруна - кіраўніка Цэнтру Беларускага Вызвольнага Руху. Сёлета ж спаўняецца 50 гадоў ад пачатку пасьляваеннага беларускага нацыянальнага супраціву бальшавікам.

*Васіль Рыгоравіч Супрун нарадзіўся ў в.Глоўсевічы Слонімскага раёну. Да вайны скончыў шэсьць класаў. У гады акупацыі, ратуючыся ад вывазу ў Германію, у Слоніме скончыў сёмы клас, настаўніцкія курсы і тры класы настаўніцкай семінарыі. Тады ж пачаў пісаць вершы, якія з 1943 г. друкаваў у беларускіх газэтах. У 1946 г. на Слонімшчыне ўзьнікла падпольная арганізацыя «Чайка». Яе ўзначаліў Васіль Супрун. У 1947 годзе яна перарасла ў «Цэнтр Беларускага Вызвольнага Руху» з групамі ў Баранавіцкай, Берасьцейскай, Пінскай і Маладзечанскай абласьцях.*

***Янка Саланевіч.***

**- Спадар Васіль, адно з ключавых пытаньняў усякага руху - прычыны. Што штурхнула моладзь падняцца на змаганьне ў абсалютна безнадзейнай сітуацыі?**

- На гэта можна адказаць вельмі каротка - расейскае хамства. Калі бальшавікі «вызвалілі» нас першы раз, а гэта адбылося 18 верасьня 1939 году, іх з радасьцю сустрэлі ў асноўным абібокі, няпісьменныя, бесталковыя, гультаі, але прыхільнікі і сябры КПЗБ. Яны сталі актывам, ствапалі камітэты, разьмяркоўвалі прадукты. Кіраўніцтва ім ніхто давяраць не зьбіраўся, таму з Усходняй Беларусі была прыслана амаль уся адміністрацыя. Гэта былі бальшавікі, але гэта былі беларусы. Пасьля вайны сітуацыя рэзка памянялася. Выхадцы з Усходняй Беларусі страцілі давер, таму што пабылі пад акупацыяй. Кожны начальнік, кожны дырэктар былі прысланы з Расеі. У 1946 годзе амаль з усіх пасадаў былі зьмецены нават партызаны. Начальнікамі станавіліся толькі расейцы. У асноўным гэта былі недавукі, хамы, гвалтаўнікі, дурні. Запанавала мацяршчына, бескультур'е. Улада падкрэсьлівала сваё хамства. Усе яе высілкі былі накіраваны супраць мясцовых, супраць культуры, веры. Было проста сорамна ім падпарадкоўвацца.

У пачатку 1946 году пачалі ўзьнікаць групы патрыётаў. Такія групы былі ў Паставах, Глыбокім, Навагрудку. У Слоніме да ідэі стварэньня падпольнай арганізацыі прыйшлі выпускнікі настаўніцкай сeмінарыі. Амаль усім ім было няпоўных 20 гадоў. Годы вайны спрыялі росту нацыянальнай сьвядомасьці і, калі на зьмену аднаму акупанту прыйшоў другі, гэтая сьвядомасьць мусіла прарасьці



*Васіль Супрун у лагеры (1953г)*

дзеяньнем. У хлопцаў не было вялікіх надзей на посьпех. Яны ведалі сітуацыю ў Польшчы, Чэхаславакіі, мелі добрую інфармацыю пра герaічнae змаганьне паўмільённай украінскай арміі. Хлопцы разьлічвалі на рэзананс і на арганізацыйнае адзінства.

Галоўныя мэты, якія яны сабе ставілі: абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці; абарона мовы і культуры; супрацьстаяньне чужой плыні.

Касьцяк групы склалі: Васіль Супрун, Міхась Раневіч, Міхась Чыгрын, Уладзімір Салавей, Аляксандр Гардзейка.

Кіраўніком быў абраны Васіль Супрун.

Пачалася актыўная арганізацыйная работа. Хутка паўсталі групы ў Баранавічах, Бярэсьці, Жыровічах. Узьнікла пытаньне адзінага кіраўніцтва. Летам 1946 году ў Баранавічах быў утвораны Цэнтр Беларускага Вызвольнага Руху. Кіраўніком быў абраны Васіль Супрун, намесьнікам Аляксандр Барэйка і Міхась Ракевіч, сябрамі Мікалай Макарэвіч, Міхась Агейка, Уладзімір Салавей.

Цэнтр працягваў разгортваць працу. Узьнікаюць групы ў Ганцавічах і Маладэчне. Цэнтр пераходзіць на абласныя структуры. Кіраўнікамі абласьцей становяцца: Баранавіцкай - А.Барэйка; Берасьцейскай - М.Макарэвіч; Пінскай - Мікалай Лясковец; Маладэчанскай - Антон Кабак. У 1947 годзе Баранавіцкая арганізацыя самавольна ўстанаўлівае сувязь з навагрудзкім Саюзам вызваленьня Беларусі, якім кіраваў Генадзь Казак. У навагрудзкай арганізацыі працаваў правакатар НКУС. Ціна Клыкоўская ў артыкуле «Жыцьцё за імгненьні, да 50-годдзя Саюза вызваленьня Беларусі», надрукаваным у газеце «Беларуская маладзёжная» N 2 за г.г. называе прозьвішча правакатара - Алесь Бажко, будучы сябра Саюзу пісьменьнікаў, аўтар некалькіх кніжак.

Канспірацыя трацiла сэнс. У 1947 годзе дзейнасьць цэнтру спынілі па загаду Супруна. Але было позна. Арыштоўвалі амаль пагалоўна. На свабодзе засталіся толькі тыя, хто працаваў у адзіночку будучы зьвязаным толькі з адным чалавекам.

**- Я ня мог спаць. Яны сталі перад вачыма: сябры, іх жонкі, дзеці і прасілі: «Не выдавай!» Больш за ўсё баяўся, каб не назваць каго ў сьне ці ў несьвядомым стане.**

Самога Васіля Супруна арыштавалі 6 чэрвеня 1947 году на дарозе з хутара, дзе ён жыў, да вёскі Глоўсевічы, дзе працаваў настаўнікам. Судзілі 21 лістапада 1947 году ў Менску. У Менску судзілі толькі Супруна і хлопцаў з Маладзечанскай вобласьці - Кабака, Якоўскага і Альшэўскага.

Пратакол суду сьцьвярджае, што Васіль Супрун стварыў арганізацыю «для барацьбы супраць савецкай улады». Спадар Васіль не адмаўляе гэтага сёньня, як не адмаўляў на судзе. Першапачатковая ўмова, што арганізацыя ствараецца, як сацыял-дэмакратычная, для бальшавікоў сэнсу ня мела. Арганізацыя была беларускай, значыць, «нацыяналістычнай».

Па-рознаму вялі сябе хлопцы і на допытах, і на судзе. Людская слабасьць такая ж бязьмежная, як і мужнасьць. Нехта не вытрымліваў пабояў, нехта спадзяваўся на палёгку. Нехта верыў, што «чыстасардэчнае прызнаньне...» І ніхто не сказаў пасьля, што ён некага выдаў. Розныя тэрміны атрымалі сябры арганізацыі. Васіль Супрун атрымаў максімум: 25 гадоў лагераў і 5 гадоў паражэньня ў правах. Гэта гаворыць само за сябе. Самі за сябе кажуць і прозьвішчы сяброў арганізацыі, якія былі замкнутыя толькі на Супруна і ацалелі. Спадар Васіль называе прозьвішча супрацоўніка НКУС, сябра арганізацыі, але кажа, што яно не для друку. Сёньня гэты чалавек недзе спакойна атрымлівае сваю НКУСаўскую пеньсію, прынамсі, хоць часткова заслужаную.

Ня быў арыштаваны Уладзімір Салавей. Тры гады ён хаваўся ад сталінскіх халуёў, але не вытрымала галава. Чалавек звычайным чынам звар'яцеў.

Васіль Супрун прайшоў Баранавіцкае «Крывавае кола», менскую «Амерыканку», Гарадзенскую і Аршанскую турмы, лагеры Варкуты і Інты.

Улагеры Супрун перапісваўся з вялікаю патрыёткай нашай зямлі Ларысай Геніюш. У сваёй біяграфіі Васіль Супрун піша: «Наша нечаканае знаёмства адбылося недзе ў пачатку 1953 году. ...Кожная яе запіска, кожны верш - гэта гаючы нектар параненаму сэрцу, гэта пяшчотны подых дарагіх беларускіх палёў, гэта трывожная песьня зьняволенай птушкі».

Пачаўшы пісаць і друкавацца ў 1943 годзе, Васіль Супрун у турмах і лагерах не пакідаў паэзіі. Пісаць не было на чым, і ён завучваў вершы на памяць.

*«Лаканічнасьцю, скупасьцю слоў у радку і сказе, імкненьнем да афарыстычнасьці, да сьціслых аб'ёмаў верша малое формы, рэфлексійнасьцю, што раз-пораз успламяняецца грамадзянскай патэтыкай, - гэтымі асаблівасьцямі свайго стылю Васіль Супрун выказвае адкрытыя свае сімпатыі традыцыям Максіма Багдановіча».*

***Алег ЛОЙКА.***

І нездарма Ларыса Геніюш называла паэта ласкавым словам «Васілёк».

У лагеры Васіль Супрун даволі добра валодаў інфармацыяй, што адбываецца на Беларусі і ў сьвеце. Дапамагалі ў гэтым перш за ўсё украінскія патрыёты.

У 1956 годзе Васіль Супрун вярнуўся ў Слонім. Падстава для вызваленьня афіцыйна запісана як «непамерна вялікі тэрмін адносна зробленага злачынства».

У 1994 годзе ў незалежнай Беларусі Супруну адмовілі ў рэабілітацыі на падставе «што ён сапраўды змагаўся супраць савецкай улады». Савецкая ўлада змаганьня супраць сябе не даруе.

Тым ня менш, Васіль Супрун у 1993 годзе выдаў кнігу паэзіі «Крык», у 1994 годзе - кнігу паэзіі «Рэха абуджаных дзён» і зборнік гістарычных і краязнаўчых дасьледаваньняў «За смугою часу».

Ужо даўно няма Ларысы Геніюш, а «Васільку» - сёмдзесят. Але жывая легенда Беларусі Васіль Супрун, хоць і пасьля двух інфарктаў, мае яшчэ сілы, каб сказаць слова за сваю краіну:

*Зноў наша неба цямнее чамусь,*
*А на сэрцы ізноў неспакойна.*
*Над свабодай Тваёй, Беларусь,*
*Крумкачы лямантуюць разбойна.*
*Зноў зьлятаюцца катаў былых*
*Крыважэрныя чорныя зграі.*
*І, раз'юшана рэжучы слых,*
*Пагражаюць канцлагерам краю.*
*Ці вы чуеце, людзі? Пара*
*Мовіць слова сваё ўрэшце зброду!*
*Пакуль сілы ў агні не гараць,*
*Кайданы не надзелі народу!*

**Станіслаў СУДНІК.**

# НАШ КАЛЯНДАР

**26 красавіка**
1986 г. Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС
1883 г. Памёр Напалеон Орда, славуты мастак і кампазітар. У 1862-63 г.г. жыў у Горадні.
**27 красавіка**
1792 г. Стварэньне Таргавіцкай канфедэрацыі - хаўрусу магнатаў і шляхты, якія прывёў да другога падзелу Рэчы Паспалітай.
1919 г. Немцы перадалі Горадню войскам Юзафа Пілсудзкага.
1945 г. Беларусь была прынята ў склад заснавальнікаў ААН.
1947 г. Памёр Валянцін Таўлай, паэт, слынны дзеяч палітычнага заходнебеларускага руху.
**28 красавіка**
1794 г. Насельнікі Горадні ў Саколцы заяўляюць пра далучэньне да вызвольнага чыну Тадэвуша Касьцюшкі.
1945 г. Пад час штурму Гдыні быў сьмяротна паранены Сяргей Крывец, ураджэнец Дубна (Мастоўскі раён), беларускі паэт і асьветнік.
1956 г. У вёсцы Зенькаўцы (на Зэльвеншчыне) нарадзілася паэтка Антаніна Хатэнка.
**29 красавіка**
1581 г. Парэшткі Стэфана Баторыя перавозяцца з Горадні ў Кракаў.
1921 г. Нарадзіўся Мікола Ермаловіч, літаратуразнаўца, дасьледчык старажытнай айчыннай гісторыі.
1931 г. Памёр Яўхім Карскі, знакаміты філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, этнограф, палеограф, фальклярыст.
**30 красавіка**
1632 г. Памёр Жыгімонт III Ваза, князь ВКЛ у 1587-1632 г.г.
1881 г. Памёр Адам Адамовіч, вядомы вучоны-медык, анатам Віленскага універсітэту.
1956 г. У Лідзе нарадзілася Ірына Багдановіч, паэтка, літаратуразнаўца.
**1 траўня**
1931 г. У Слоніме нарадзіўся Алег Лойка, паэт, літаратурны крытык.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# ЁН БЫЎ УЗОРАМ КУЛЬТУРЫ...



Пайшоў з жыцьця Пётр Сьцяпанавіч Башко, перакананы патрыёт Беларусі, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, чалавек рознабакова таленавіты - мастак, педагог, тэатральны артыст, сьпявак. Ён сумленна прайшоў свой нялёгкі шлях, аддаючы людзям уласныя здольнасьці, багацьце душы, і да апошніх амаль дзён сьпяваў у гарадзенскім хоры «Бацькаўшчына», усьведамляючы нацыянальнае значэньне выступаў гэтага калектыву на сьвяточных імпрэзах, у храмах, на канцэртных пляцоўках.

Нарадзіўся П.Башко ў 1915 годзе ў мястэчку Парэчча Гарадзенскага раёну ў вялікай (быў 10-м дзіцём) сям'і чыгуначніка. Скончыў у 1932 г. сямігодку ў Дзятлаве. Затым - чыгуначную школу ў Вільні і працаваў чарцёжнікам на авіяцыйным заводзе ў Варшаве. Праца давала матэрыяльны дастатак, але не задавальняла духоўна - яго вабіў жывапіс, тэатр. Тры гады наведваў вячэрняе аддзяленьне варшаўскай мастацкай школы і, скончыўшы яе, аддаўся любімаму занятку - пісаў алейныя, графічныя партрэты, кампазіцыі. Аднachасова іграў на варшаўскіх сцэнах. Перад вайной скончыў адзін курс Варшаўскага тэатральнага інстытуту Зельвяровіча.

Вайна вярнула на бацькоўскія сьцежкі. Працаваў у Навагрудку настаўнікам маляваньня, пасьля вайны - у педвучылішчы, а ў 1958-1980 гадах - у Гарадзенскім педінстытуце (сучасным універсітэце) імя Я.Купалы.

Ён быў узорам культуры, гэты заходнебеларускі інтэлігент старэйшага пакаленьня. Заўсёды сардэчны і зычлівы, арганічна ветлівы, далікатны, ствараў вакол сябе асаблівую атмасьферу сьветлай дабраты. Такім і застанецца з намі.

**Сябры, калегі.**

